*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі!* ***Францішак БАГУШЭВІЧ***




# Наша слова

№ 11 (21) • 1—7 МАЯ 1991 • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## *Поступ тыдня*

Зноў правялі забастоўку мінскія рабочыя. Перагаворы, якія вёў гарадскі забастовачны камітэт з урадам рэспублікі, не далі вынікаў. Забастоўшчыкі патрабуюць рашучых палітычных перамен, каб вывесці краіну і Беларусь з крызісу. Забастоўка прыпынена да 21 мая.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР заклікаў працоўных устрымацца ад забастовак.

* * *

На аснове працяглых даследаванняў слоўніка мясцовых гаворак Беларусі ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР створаны «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак». Ён уключае каля двух тысяч лінгвістычных карт, падзеленых па сваёй тэматыцы на пяць тамоў, і аб'ядноўвае больш за дзвесце тысяч слоўнікавых адзінак. Зараз атлас знаходзіцца ў друку.

* * *

Савет Міністраў БССР прыняў пэўныя захады, каб аслабіць незадаволенасць людзей рэзкім ростам цэн на тавары і паслугі. Памяншаюцца тарыфы на праезд у электрычках, адмяняецца пяціпрацэнтны падатак на некаторыя тавары... Выказваюцца, аднак, меркаванні, каб такія палавінчатыя меры не выклікалі рэакцыю, адваротную той, што задумана.

* * *

Створана рэгіянальнае згуртаванне беларусаў-вайскоўцаў г. Масквы. Прыняты статут згуртавання, выбраны каардынацыйны камітэт.

## Насустрач II з'езду Таварыства беларускай мовы

Нягледзячы на тое што апошнія гады на Беларусі былі багатымі на падзеі, Устаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, які адбыўся 27 чэрвеня 1989 г. у Мінску, меў вялікі рэзананс у грамадскім жыцці. За мінулыя без малога два гады прыхільнікі нацыянальнага адраджэння, якіх згуртавала Таварыства, унеслі важкі ўклад у справу абароны і пашырэння беларускага слова не толькі ў большасці раёнаў Беларусі, але і на шырокіх абсягах СССР ад Карэліі да Крыма і ад Брэста да Новасібірска. Набыло сваіх сяброў ТБМ таксама ў ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Польшчы...

За час, пакуль існуе Таварыства і пры яго самым актыўным удзеле быў прыняты Закон аб мовах у Беларускай ССР, зацверджана Дзяржаўная праграма яго ажыццяўлення, абмеркаваны ў першым чытанні Закон аб культуры ў Беларускай ССР, прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Арганізацыі ТБМ дзейнічаюць у вышэйшых органах улады рэспублікі — Вярхоўным Савеце і Савеце Міністраў Беларускай ССР, а таксама ў шэрагу мясцовых Саветаў народных дэпутатаў і на поўную сілу садзейнічаюць паскарэнню працэсаў адраджэння беларускай мовы ў грамадскім і дзяржаўным жыцці.

Ёсць і шматлікія перашкоды. З аднаго боку, не садзейнічае працэсу нацыянальнага адраджэння Беларусі абвастрэнне сацыяльна-эканамічных праблем у рэспубліцы, палітычная палярызацыя грамадства, з другога — назіраецца пэўны спад грамадскай актыўнасці прыхільнікаў беларускага слова, асабліва тых сяброў Таварыства, якія спадзяваліся на адным дыханні пераадолець моўна- культурны крызіс. На жаль, нямала ў шэрагах Таварыства асоб, якія спадзяюцца, што без непасрэднага ініцыятыўнага ўдзелу іх саміх, без усведамлення асабістай адказнасці за лёс роднага слова ў рэспубліцы магчымыя значныя зрухі ў справе нацыянальнага адраджэння. І гэта ў той час, калі, дзякуючы намаганням народных дэпутатаў Беларускай ССР, сяброў ТБМ, якія дабіліся прыняцця Саветам Міністраў БССР Пастановы «Пытанні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны» (№ 56, ад 19 лютага 1991 г.), перад арганізацыйнымі структурамі Таварыства адкрыліся вялікія перспектывы ў пашырэнні і ўдасканальванні арганізацыйнай, выхаваўчай, а таксама выдавецкай і іншай гаспадарчай дзейнасці. Тым не менш, па шэрагу напрамкаў працы Таварыства мае значныя поспехі ў ажыццяўленні статутных задач, і аб гэтым пойдзе гаворка непасрэдна на з'ездзе і ў перадз'ездаўскай дыскусіі, якую наспела неабходнасць распачаць у сродках масавай інфармацыі. Такая дыскусія паслужыць інструментам актывізацыі грамадскасці і дзяржаўных структур у дзейнасці па ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР. Задача, пагадзіцеся, вельмі актуальная, зважаючы на тое, што маюцца шматлікія факты невыканання, ігнаравання або адыходу ад ідэй і праграмы ажыццяўлення Закона.

Жыццё паставіла перад грамадскасцю і іншыя задачы. Праект новага Саюзнага Дагавора, у якім вызначаны статус рускай мовы як афіцыйнай (фактычна дзяржаўнай) у СССР і ў рэспубліцы, вымушае забіраць сілы, каб увогуле адстаяць ідэі Закона аб мовах у БССР, згодна з якім беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай на тэрыторыі рэспублікі, а руская — моваю міжнацыянальных зносін. Акрамя гэтага, трэба весці арганізацыйную і псіхалагічную падрыхтоўку да рэфармавання правапісу беларускай мовы. Такім чынам, праблемы, якія паўсталі перад Таварыствам,— гэта праблемы шырокай грамадскасці, усяго народа Беларусі.

Тэмы, якія, магчыма, паўстануць на парадку дня з'езда, абмеркаваны ў пастаянных камісіях і Рэспубліканскай Радай ТБМ:

— Роля грамадскасці рэспублікі, ТБМ у фармаванні канцэпцыі развіцця культуры, стварэння нацыянальнай школы і адраджэнні беларускай мовы;

— Аналіз дзяржаўнай моўна-культурнай палітыкі ў Беларускай ССР, грамадскі кантроль за ходам ажыццяўлення Закона аб мовах у БССР;

— Шляхі рэфармавання беларускага правапісу, графікі;

— Праграма асветніцкай і гаспадарчай дзейнасці Таварыства;

— Арганізацыйная будова ТБМ; змены ў Статуце Таварыства.

Будзе вельмі добра, калі гэтыя і іншыя пытанні грамадска-культурнага жыцця рэспублікі будуць абмеркаваны на сходах суполак ТБМ, на канферэнцыях яго рэгіянальных арганізацый і калектыўных сябрын, а змест канкрэтных прапаноў і інфармацыю аб ініцыятыўных захадах ва ўсім спектры нацыянальнага адраджэння Беларусі атрымае сакратарыят Таварыства і рэдакцыя газеты «Наша слова»,

*(Заканчэнне на 4-й стар.).*

## *У НУМАРЫ:*





На здымку: гуканне вясны ў Мінску. Фота Уладзіміра Сапонава.

*Соф'я ШАХ*

*Сеем, здаецца, спрадвечнае жыта,*
*Жыта! А поле — у голым асці...*
*Месца жывога ўжо не знайсці,—*
*стойма ракеты, а нам бы — ракіта...*

*Нам бы лугі, і сады, і лясы, —*
*каб раскашнелі-зіхцелі пры сонцы.*
*У нас жа — Ты чуеш? — скрозь цэзій і стронцый.*
*Нават у кроплях крыштальнай расы...*

*Нават у дзетак пагляд несуцешны...*
*Божачка, Божа, адзіны, бязмежны!*

г. Светлагорск.

# Чарнобыльскі шлях беларусаў: пятая гадавіна

**26 красавіка па цэнтральных вуліцах Мінска прайшлі ўдзельнікі жалобнай працэсіі «Чарнобыльскі шлях — 1991», арганізаванай Мінскай гарадской радай Беларускага Народнага Фронту, Рэспубліканскай радай Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і таварыствам «Мартыралог Беларусі». Ля Свята-Духава Кафедральнага сабора адбыўся жалобны мітынг, які закончыўся сумеснай малітвай прадстаўнікоў трох канцэсій за беларускі народ. У парку імя М. Горкага быў адкрыты памятны знак ахвярам Чарнобыля.**

**Да 1988 года дзейнасць афіцыйных органаў улады па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы заставалася цалкам «закрытай зонай» для грамадства. Усе асноўныя звесткі аб становішчы, што склалася на забруджанай тэрыторыі, былі засакрэчаны.**

* * *

*Нават сёння шэраг дакументаў, у якіх гаворыцца пра звычайную гаспадарчую дзейнасць у «зоне», падаецца з грыфам «для службовага карыстання» ці «сакрэтна».*

*Невядома, напрыклад, колькі адсюль паступае ў магазіны нашай рэспублікі і за яе межы мяса. Застаецца загадкай нават тое, колькі ўсяго мясных прадуктаў сапраўды патрэбна для Беларусі.*

* * *

Радыебіёлагі шляхам даследаванняў устанавілі: у арганізме людзей, якія жывуць у «зоне» і на «чыстых» землях, канцэнтрацыя цэзія-137 аднолькавая. Прычына гэтаму адна: чыстыя прадукты перамешваюцца з нячыстымі і развозяцца па ўсёй рэспубліцы.

* * *

***Да сённяшняга дня на забруджаных землях дзейнічае 30 гіганцкіх комплексаў буйной рагатай жывёлы, дзе адкормліваецца 180 тысяч галоў, і звыш 20 свінагадоўчых, разлічаных на 750 тысяч галоў. Мяса і малако адсюль у асноўным паступае жыхарам Беларусі: іншыя рэгіёны краіны адмаўляюцца іх прымаць.***

* * *

Да нядаўняга часу медыкі падпарадкоўваліся «закрытаму» загаду Міністэрства аховы здароўя, у якім рэкамендавалася не звязваць выяўленыя захворванні з радыяцыяй. Цяпер, кажуць, гэты загад адменены.

* * *

**У бліжэйшы час на першае месца па сваёй небяспечнасці для здароўя людзей, як мяркуюць вучоныя, выйдзе стронцый. Не толькі таму, што яго многа назапашана ў глебе і прадуктах, але і таму, што, у адрозненне ад цэзія, ён практычна не выводзіцца з арганізма. Аднак у рэспубліцы не створана служба кантролю за гэтым радыенуклідам. Няма і адпаведнай апаратуры для такой работы.**

* * *

*Ацэнкі калектыўных доз апраменьвання насельніцтва на забруджанай тэрыторыі ў дзесяткі разоў перавышаюць тыя, што атрыманы жыхарамі Хірасімы і Нагасакі ў час атамнай бамбардзіроўкі.*

* * *

**Амаль усё новае будаўніцтва для перасялення людзей вялося на забруджаных землях. У Магілёўскай вобласці такім чынам пашырылі 55 пасёлкаў, У Гомельскай — 162. Перасяленцы тут, як і раней, атрымліваюць «грабавыя», гэта значыць, грашовую кампенсацыю.**

* * *

Радыеактыўнае забруджванне — толькі палавіна бяды, якая напаткала нашу рэспубліку. Другая палавіна — агульнае экалагічнае разбурэнне, што захапіла глебу, лес, ваду і паветра. Напрыклад, выкарыстанне ядахімікатаў нашымі аграрнікамі перавышае агульнасаюзны ўзровень у тры—чатыры разы.

* * *

***За апошні час сярэдняя працягласць жыцця беларусаў скарацілася на 5—10 гадоў (больш дакладныя звесткі захоўвае ў сваіх архівах Мінахновы здароўя БССР). Дзіцячая смяротнасць, як сведчаць вучоныя, перавышае ўсе дапушчальныя ў цывілізаваным грамадстве межы.***

Падрыхтавана па звестках беларускага друку.

---

лік — той паляк, а беларусаў, як такіх, не было.

На былой зямлі Рэчы Паспалітай, якая знайшлася ў границах Расіі, польскі элемент карыстаўся вялікай свабодай і правам. Гэта прызнавалі адкрыта польскія дзеячы і палітыкі. Яны праз свае «соймікі» кіравалі польскім школьніцтвам і адміністрацыяй на Беларусі і Літве. Каталіцкая царква карысталася свабодай, толькі забаронена было ёй падаваць да ведама папскія энцыклікі без апрабаты генерал-губернатара. Ды нават езуіцкія калегіі былі адкрыты ў Магілёве, Мсціслаўі, Чачэрску, Оршы, Віцебску і Дзвінску пасля таго, калі папа Клімент XIV у 1773 годзе развязаў Ордэн езуітаў. Толькі уніяцкая царква, як і раней, не цешылася аўтарытэтам на Беларусі. Яе не любілі не толькі праваслаўныя, але і каталікі. Абрад яе быў усходні, а догмы заходнія. Як праваслаўныя, так і каталікі хацелі пакончыць з гэтым штучным творам. Знайшоўшыся сярод непрыхільнага да сябе асяроддзя, адны яе вернікі вярнуліся назад у праваслаўе, а другія пайшлі ў рыма-каталіцызм, дзе іх польскія ксяндзы апалячылі.

У 1803 годзе ўтворана была Віленская школьная акруга на чале з польскім патрыётам князем Адамам Чартарыскім, якая абымала ўсе беларускія губерні. Мэтай яе было, як піша С. Таляронак: «Жаданне аднавіць палітычныя структуры Рэчы Паспалітай 1772 года, г.зн. уключыць у яе састаў, акрамя ўсяго іншага, і Беларусь, ліквідаваць праваслаўе і уніяцтва, насільна насадзіць каталіцызм — такую мэту паставілі перад сабой князь Адам і яго аднадумцы» («Настаўніцкая газета», 1990 г., № 86).

Стараннем Адама Чартарыскага рэарганізаваны Віленскі універсітэт, статут якога зацвердзіў цар Аляксандр I 18-га мая 1803 года. Гэтым жа Адамам Чартарыскім адкрыты ў губернскіх гарадах гімназіі, а ў паветах школы павятовыя. Навучанне ў школах ішло на дзвюх мовах — польскай і расійскай, толькі не на беларускай на Беларусі, хоць князь А. Чартарыскі паходзіў са старога беларускага роду. Ён быў адначасна куратарам Віленскага універсітэта і вёў нагляд за польскімі школамі. Яму на дапамогу прыйшлі такія самыя польскія патрыёты — Тадэвуш Чацкі і Гуга Калантай. Такім спосабам пад польскім уплывам апынуліся вельмі важныя дзялянкі выхавання моладзі ў польскім духу.

*(Заканчэнне будзе).*

## Чытанка для дзяцей

# Блакіт нябёс і белы бусел

*Бадай, упершыню ў мінскіх кнігарнях з'явілася кніжка, якую раскупілі ў лічаныя дні. Маю на ўвазе «Чытанку для дзіцячага сада», якая выйшла ў выдавецтве «Народная асвета». І як не парадавацца, што цяпер і ў дзіцячых садках будзе кніжка, у якую яе ўкладальнікі В. Вячорка, Н. Маскаленка, П. Садоўскі старанна сабралі ўсё лепшае, што ёсць у нашай дзіцячай літаратуры, а акрамя гэтага, і творы латышскай, рускай, літоўскай, армянскай, украінскай, польскай і англійскай літаратур, перакладзеныя на нашу мову. І разам з тым, як не засмуціцца, што тыраж кніжкі (70 000) мог быць і большым, таму што, хоць і ёсць у яе канкрэтны адрасат — дзіцячы сад, а ўсё ж думаецца, што «Чытанкай» зацікавіліся не толькі выхавальнікі, а і настаўнікі малодшых беларускамоўных класаў. Ды і каму з бацькоў не схацелася б мець падобную кніжку дома, дзе ёсць маленькія дзеці? У ёй жа сабрана лепшае! Вершы, казкі, апавяданні Якуба Коласа, Янкі Купалы, Васіля Віткі, Максіма Танка, Сяргея Новіка-Пяюна, Ніла Гілевіча, Сяргея Грахоўскага, Рыгора Барадуліна, Валянціна Лукшы, Артура Вольскага, Станіслава Шушкевіча, Барыса Сачанкі, Васіля Хомчанкі і многіх іншых беларускіх пісьменнікаў. Побач са старэйшымі шырока прадстаўлены творы і маладзейшых: Сержука Сокалава-Воюша, Алега Мінкіна, Ганны Івановай. А колькі фальклорных твораў, што збіраліся нашым народам стагоддзямі!*

*«Чытанка» будзе добрым падмацаваннем перапрацаваных праграм для дзіцячых дашкольных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання і выхавання, якія былі прыняты ў 1989 годзе. Больш таго, у сваёй прадмове ўкладальнікі кніжкі пішуць, «што праграму нельга разумець як догму. У хрэстаматыі ёсць пэўная частка непраграмных твораў, асабліва для малодшых узростаў. Гэта патрэбна для таго, каб выхавальнік мог выбраць тэксты, даступныя разуменню дзяцей з розным веданнем беларускай мовы, знайсці творы з рознымі моўнымі асаблівасцямі».*

*З'яўленне «Чытанкі» не засталося незаўважаным. Пра яе выданне ўжо інфармаваў друк, і немагчыма не пагадзіцца з тым, пра што піша К. Вярэйка («ЛіМ», № 2, 1991 г): выданню бракуе малюнкаў. Трэба было ўлічыць і псіхалогію дзіцяці. Яму мала пачуць ці прачытаць самому, яму яшчэ трэба і пабачыць! Атрымалася ж — ёсць прыгожая вокладка, ёсць добры змест пад ёю, і зусім няма ілюстрацый! Хочацца, каб гэта ўлічылася пры наступных выданнях, а пакуль думаецца, што нашы дзеткі атрымалі добры падарунак, які будзе спрыяць таму, каб моўны свет дзіцяці расхінаўся перад ім непаўторнай красою роднага слова.*

Раіса БАРАВІКОВА.

Прапануем чытачам асобныя творы з «Чытанкі для дзіцячага сада».

*Клаўдзія КАЛІНА*

### *Сакавік і яго сёстры*

Былі ў Сакавіка дзве сястры: старэйшая — багатая ды ганарыстая; і малодшая — бедная, затое добрая і ласкавая.

Багатая жыла на далёкай поўначы ў прыгожым палацы, а бедная — на цёплым поўдні ў сялянскай хаце.

У багатай сястры дарагія ўборы ды самацветы ў скрынях ляжаць, а ў беднай усяго таго багацця, што прыгожыя кветкі ў садочку цвітуць ды птушкі на розныя галасы шчабечуць. І сама яна вясёлая, гарэзлівая, ходзіць па садочку ды песні спявае.

Багатая і бедная сёстры любілі ездзіць да брата Сакавіка ў госці.

Бывае, гляне Сакавік на неба, бачыць: птушкі з поўдня ляцяць, на радзіму з выраю вяртаюцца.

— Гэта мая малодшая сястрыца да мяне ў госці едзе! — радуецца Сакавік.

І вось ужо следам за птушкамі грукоча па палях і лугах прыбраны зялёнымі галінкамі вазок малодшай сястры.

Сястра з братам сардэчна вітаецца, ласкава яму ўсміхаецца. І ад гэтай усмешкі расцвітаюць першыя пралескі.

Брат сястру вядзе ў святліцу сасновую, саджае за стол дубовы. Рады ён сустрэчы з любай сястрою.

Але тут як падзьме з поўначы холадам, як сыпане ў вочы снегам...

— Гэта старэйшая сястра да мяне ў госці едзе! — кажа Сакавік і выходзіць сустракаць багатую сястру.

Імчыць багатая сястра ў срэбных санях, на белых конях, дарогу снегам засыпае.

Ды толькі халодная ды ганарыстая яна, не ўсміхаецца брату, слова прыветнага не вымавіць.

Зірнула старэйшая сястра на сінія пралескі, якія распусціліся на праталінах, і дыхнула на іх марозам. Не любіла багатая сястра беднай, ні яе кветак, ні птушак, ні песень.

— Зараз я буду гасцяваць у брата Сакавіка!— грозна закрычала яна на малодшую сястру.

Пакрыўдзілася малодшая сястра, села ў свой зялёны вазок і паехала. Але недалёка ад'ехала, бо вырашыла не саступаць старэйшай сястры.

Яшчэ не адгасцявала старэйшая сястра, як малодшая вярнулася. І ад яе ўсмешкі гарачэй прыгрэла сонейка, расцвілі зноўку краскі.

І хоць злавалася старэйшая сястра, дыхала марозам, сыпала снегам, усё дарэмна — малодшая сястра гасцявала ў брата Сакавіка, аж пакуль старэйшая не паехала дадому на поўнач.

Вось таму і кажуць, што ў Сакавіка кіпіць, як у гаршку: то сонейка прыгрэе, ручайкі пацякуць, першыя птушкі з выраю прыляцяць, першыя пралескі расцвітуць, то раптам марозам дыхне, снег падае... Гэта да Сакавіка ў госці сёстры завітваюць: Вясна і Зіма.

*Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ*

### *Блакіт нябёс*

Блакіт нябёс, і белы бусел,
І кветкі ў полі, як абрус...
Мой край завецца Беларуссю,
А сам я — хлопчык-беларус.

*З народнага*

### *Люлі, люлі, люлі*

Люлі, люлі, люлі,
Дзеткі ўсе паснулі,
Не спіць толькі коця,
Ходзіць па балоце.
Адмарозіў лапку,
Пайшоў грэцца ў хатку.
Недзе коцю сесці,
Лапачцы пагрэцца.
Палез на палаткі —
Спалохаўся бабкі.
Палез ён на вышкі —
Там гулялі мышкі.
Так яны дурэлі —
Хвост кату ад'елі.
Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў белы паясок.
А котачка узяла
І дзіцяці аддала.
Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Ці самому з'есці,
Ці дадому несці?
Думаў, думаў каток,
Укусіў адзін разок
І панёс дадому
Дзіцятку малому.

*Мікола ЧАРНЯЎСКІ*

### *Конік*

Мне прывезлі коніка,
Коніка — куплёніка,
З цёмнай грывай стрыгунка,
З цёмнай грывай скакунка.
Мяне конік панясе
Па мураўцы, па расе.
Капыткамі загрукоча,
Ручаінку пераскочa,
Паімчыць, нібы віхор,
За лужок, за сіні бор.

*Ларыса ГЕНІЮШ*

### *Зубры*

Белавежаю крочаць зубры,
Пушчы слаўнае валадары.
І гарбы ў іх крутыя, і рогі,
Саступаюць усе ім з дарогі:
І мядзведзі, і злыя ваўкі
Зразу кідаюцца ў бакі.
Толькі зайчык адзін не баіцца,
Скача, скача ля светлай крыніцы.

*Алег МІНКІН*

### *Агнявік*

У полымі вясёлым печы
Рухавы скача чалавечак
Пад булькаценне чыгуноў,
Пад гучны трэск смалістых дроў.

Калі ж агонь згасае ў печы,
У прысак лезе чалавечак
І спіць, згарнуўшыся клубком,
Чырвоным стаўшы вугальком.

*Сяргей ГРАХОЎСКІ*

### СОНЕЧНАЯ СЦЕЖКА

Жоўты лісцік тапаліны
Ціха падае з галіны;
І лісты, лісты наўкол
Апускаюцца на дол.

Высцілае лістапад
Сцежку ў наш дзіцячы сад.
Спрытна ходзяць ножкі
Сонечнай дарожкай.

Кожнай раніцай з ахвотай
Мы прыходзім на работу.
Ляльку трэба расчасаць
І кружочкі напісаць,

Збудаваць пясчаны дом,
З'есці кашу з малаком
І кату пачысціць боты.
Ой, як шмат у нас работы!

*Кастусь ЦВІРКА*

### *Коцікі*

За вёскай, ля балоцінкі,
У галлі вярбы старой,
Маленечкія коцікі
Хаваліся зімой.

Мялі наўкол мяцеліцы,
Гулі ў кустах пустых,
Ды коцікі ў аселіцы
Не чулі нават іх.

Салодка спалі ў коўдрачках,
Чакаючы вясну.
Прыгрэла сонца шчодрае —
Збудзіліся ад сну.

Паскідвалі ўсе чысценька
Адзежыны з сябе
І, жоўтыя, пушыстыя,
Паселі на вярбе.

